*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА


Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.). ◈ № 3(59) ◈ 22 студзеня 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)


## Б. Тарашкевіч: «Аўтар... бачыць патрэбу і магчымасць спрашчэння правапісу».

*Стар. 3*

## Ці атрымае селянін зямлю?

*Стар. 4*

## Поступ тыдня

ЗАКОНЧЫЛАСЯ НЕЧАРГОВАЯ СЕСІЯ БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА. Тым часам створаны каардынацыйны савет ініцыятыўнай групы па правядзенню ўсебеларускага рэферэндуму аб неабходнасці новых выбараў у рэспубліцы.

*ЦЭЛЫ ДЗЕНЬ ВЯЛАСЯ ТРАНСЛЯЦЫЯ ПА ТЭЛЕБАЧАННІ З НАРАДЫ ВАЙСКОЎЦАЎ У МАСКВЕ. Афіцэрскі сход прайшоў і ў Менскім гарнізоне, дзе, як і ў былой саюзнай сталіцы, гаварылася аб захаванні адзіных узброеных сіл краін СНД. ЯК БАЧНА, НЕ ЎСЕ ЯШЧЭ ВЕРАЦЬ, ШТО РЭСПУБЛІКІ СТАЛІ САПРАЎДЫ НЕЗАЛЕЖНЫМІ.*

АДБЫЛОСЯ ЧАРГОВАЕ ПАВЫШЭННЕ ЦЭН — НА ГЭТЫ РАЗ НА ХЛЕБ І ХЛЕБАБУЛАЧНЫЯ ВЫРАБЫ, МАЛАКО І МАЛАКАПРАДУКТЫ. Праўда, згодна з урадавай пастановай, захаваны гранічныя ўзроўні павышэння — усяго ў тры-пяць разоў..

*СТВОРАНА НЕЗАЛЕЖНАЯ жаночая грамадская арганізацыя — Саюз жанчын Беларусі. Афіцыйна зарэгістравана таксама і другая арганізацыя аналагічнага тыпу — Ліга жанчын.*

С. С. ШУШКЕВІЧ СУСТРЭЎСЯ З МАГІЛЁЎСКІМІ ФЕРМЕРАМІ. Пакуль што невядомы вынікі гэтай сустрэчы.

*Апублікаваны законы, прынятыя беларускім парламентам, аб падаходным падатку з грамадзян і аб плацяжах за зямлю, якія маюць дачыненне да кожнага з нас. КАЛІ СТАЎКІ ЗЯМЕЛЬНАГА ПАДАТКУ НЕ НАДТА ПАЛОХАЮЦЬ ПРЫ ПЕРШЫМ ЗНАЁМСТВЕ З ІМІ, ТО ПРА ЛІЧБЫ ПАДАТКААБКЛАДАННЯ ГЭТАГА СКАЗАЦЬ НЕЛЬГА.*

ЯК СВЕДЧЫЦЬ статыстыка, прадпрыемствы лёгкай прамысловасці рэспублікі выпусцілі летась абутку, трыкатажных вырабаў, бялізны і іншай прадукцыі больш чым у папярэднім годзе. Не толькі ў пераводзе на грошы, але і паштучна. ТОЛЬКІ ВОСЬ НА ПРЫЛАЎКАХ МАГАЗІНАЎ ГЭТАЙ ПРАДУКЦЫІ ЧАМУСЬЦІ НЕ ВІДАЦЬ. ЯК НІ ДЗІЎНА, АЛЕ ПАДПОЛЬНЫ ПРОДАЖ ВЯДЗЕЦЦА Ў НАС З ДАЗВОЛУ УЛАД.

### Закону аб мовах — два гады!

*26 студзеня спаўняецца два гады як прыняты «Закон аб мовах у Беларускай ССР», але поспехаў у адраджэнні беларушчыны пакуль што нябачна. А Закон жа дэкларуе забеспячэнне ўсебаковага развіцця і функцыяніравання ва ўсіх сферах грамадскага жыцця беларускай мовы. Кіраўнікі і іншыя работнікі дзяржаўных устаноў, грамадскіх арганізацый і прадпрыемстваў павінны валодаць беларускай мовай у аб'ёме, неабходным для выканання службовых абавязкаў...*

*Што чакае беларускую палітыку, беларускую дзяржаўнасць у будучым? На гэта і іншыя пытанні дае адказ гутарка карэспандэнта «ЛіМа» са старшынёй пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны, народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам. Падаём фрагменты гэтай гутаркі.*

## Ніл ГІЛЕВІЧ: беспаваротна стаць на шлях беларусізацыі

...Што ў нас наступіла палітычнае зацішша — я не сказаў бы. Маю ўражанне, што наадварот — палітычныя амбіцыі ўсё больш распальваюцца. Хаця, здавалася б, самае важнае, самае значнае, самае галоўнае — адбылося: суверэнная Рэспубліка Беларусь выйшла са складу Саюза, у якім была амаль 70 гадоў, дэнансавала Дагавор 1922 года аб утварэнні СССР, уступіла ў Садружнасць Незалежных Дзяржаў. Гістарычнае значэнне гэтых акцый відавочнае, і, аднак жа, думаю, што на гэтыя заваёвы трэба глядзець толькі як на пэўныя і неабходныя перадумовы аздараўлення грамадства. Прычыны «хваробы», глыбокага эканамічнага, палітычнага і маральнага крызісу настолькі складаныя і сур'ёзныя, што сама па сабе дзяржаўная незалежнасць нас не выратоўвае — з катастрафічнага становішча не выводзіць. Каб выйсці з агульнага і ўсебаковага заняпаду, у які мы апынуліся, сапраўды патрэбна нейкая разумная агульнанацыянальная праграма. Лёгка і проста такая праграма выпрацавана быць не можа, але шкада, што над ёю не працуюць супольна лепшыя розумы нацыі — здольныя творча і па-сучаснаму мысліць дзяржаўнікі, філосафы, сацыёлагі, эканамісты, гісторыкі. У роздумах над такой «выратавальнай праграмай» давялося б, на маё разуменне, пільней зірнуць на ўвесь гістарычны шлях нашага народа, на яго ўласны сацыяльны і палітычны вопыт, на яго нацыянальны характар і менталітэт, пачаўшы з элементарнага пытання: хто мы і што мы? Ці ведаем мы належным чынам сябе? Што ў нас, напрыклад, ад Еўропы, а што — ад Азіі? І на што з таго лепшага, што калісьці мелі і чым ганарыліся, яшчэ можам сёння абаперціся, можам яго ў мэтах нацыянальнага самасцвярджэння замацаваць і развіць?

*(Працяг на с. 2).*

24 снежня 1991 года адбылася сустрэча кіраўніцтва Беларускага згуртавання вайскоўцаў з міністрам па справах абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнантам П. Чаусам. Былі абмеркаваны наступныя пытанні: аб вяртанні вайскоўцаў-беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі на Радзіму; аб увядзенні беларускай мовы ў войску; аб мэтазгоднасці прыняцця прысягі на вернасць Беларусі; аб перадачы газеты «Во славу Родины» міністэрству па справах абароны РБ і аб заснаванні ваенна-гістарычнага часопіса; аб патрыятычным выхаванні; аб структуры будучых узброеных сіл на Беларусі.

**Выбранецкая інфармацыйная служба.**

## Беларускія задачкі часоў незалежнасці



Ну вось, эпоха «галоснасці», ці, як падказаў наш чытач,— «голаснасці», скончылася і пачынаецца новая... Адны кажуць — суверэнnasці, а іншыя далей сягаюць — ужо і незалежнасці. А што? Садружнасць незалежных у Белавежы абвешчана? Абрэвіятурна-коратка — СНД.

А тым часам беларускіх задачак пакуль не паменела. Адно цешыць — ужо часоў Незалежнасці — БЗЧН, словам. Прагрэс.

А задачка такая, напрыклад.

Стала вядома, што ў Расіі ў Цюменскай вобласці грамадзяне, у пашпарце якіх пазначана нацыянальнасць карэннага насельніцтва — ханты ці мансі, пачалі ў мінулым годзе атрымліваць па 600 рублёў датацыі (дабаўку) за «тутэйшасць». І што вы думаеце? Некаторыя рускія, якія там жывуць, раптам вырашылі ўдакладніць сваю ранейшую нацыянальную прыналежнасць. Як паведамілі ў прэсе, толькі ў Канцінскім раёне сорак чалавек знайшлі магчымасць змяніць у пашпарце запіс у пятай графе — хто перапісаўся на ханты, а хто на мансі.

У нас частка бацькоў (і яшчэ даволі значная) працягвае ўладкоўваць сваіх дзетак калі ўжо не ў англійскія школы, дык у рускамоўныя класы, бо па-ранейшаму спадзяецца: такім чынам іхнія «чады» хутчэй прапхнуцца хоць у якое, але ж «начальства». А тут у гэтым сэнсе з'явілася новая спакуса: Менск, кажуць, займее статус сталіцы Садружнасці Незалежных Дзяржаў з непазбежным у такім выпадку ладным кантынгентам прывілеяванага рускамоўнага чыноўніцтва. Спадар Кебіч, праўда, запэўнівае: кантынгент той будзе невялікім. Але хто ж не ведае здольнасці бюракратычных структур вокамгненна разрастацца!

Пытанне: каму трэба даплочваць за «тутэйшасць» — вучням ці іхнім практычным бацькам, каб яны ўсё ж хоць трохі пачуваліся беларусамі?

 



# Ніл ГІЛЕВІЧ: беспаваротна стаць на шляхах беларусізацыі

Працяг.

Пачатак на с. 1.

Трэба беспаваротна стаць на шлях беларусізацыі ўсяго нашага жыцця, усяго нашага грамадскага і бытавога ўкладу, нашай грамадскай псіхалогіі і маралі,— з перакананнем, што паратунак — толькі тут! Іншымі словамі, патрэбен паваротны момант у нашай сучаснай гісторыі, сутнасць якога ў тым, каб пачаць рабіць Рэспубліку Беларусь дзяржавай сапраўды беларускай. Да гэтага часу яна,— мяркуючы па яе Вярхоўным Савеце, па яе ўрадзе, па яе міністэрствах і ведамствах, па незлічонай арміі чыноўнікаў,— такою яшчэ не з'яўляецца. Беларусь яшчэ мае стаць Беларуссю! Зразумеем жа гэта нарэшце! І барані нас Бог — збаяцца, калі пачуем, як залямантуюць нашы «добразычлі́ўцы» — ага! нацыяналізм! сепаратызм! правінцыялізм! Пакуль гэты страх не пакіне нас — мы не станем гаспадарамі ў сваёй хаце, на сваім двары, на сваёй сядзібе, ну, а як жывуць негаспадары — вядома. Пераканаліся за стагоддзі — аж ага! Таму на крык-лямант увагі звяртаць не трэба. Зрэшты, можна і адказаць — з іранічнай усмешкай: супакойцеся, панове! І перастаньце лічыць нас дурнямі, якія гатовы самаізаляваўцца ад вялікага свету, замкнуцца ў нацыянальнай шкарлупіне і г.д. Перастаньце! Бо дурняў даўным-даўно няма, і што стаіць за вашым крыкам-лямантам — таксама даўным-даўно не таямніца: подлае жаданне ўсё-такі не даць беларускаму народу падняць галаву і быць самім сабою! На вялікі жаль, патугі горластых, нахабных і бесцырымонных «інтэрнацыяналістаў» не марныя: запалоханыя, настрашаныя горкім нялюдскім мінулым, многія нашы людзі ўсё яшчэ прыслухоўваюцца да голасу ілжэпрарокаў. Ну што ж, перадумовы да перамен створаны: у незалежнай дзяржаве, упэўнен, ад гэтай нашай нацыянальнай хваробы мы будзем пазбаўляцца больш рашуча.

Але гэта адзін аспект таго, што вы назвалі «выратавальнай праграмай» — ідэалагічны. Самым цесным чынам звязаны з ім другі — маральны. Ідэя адраджэння Беларусі і беларускага народа можа ажыццяўляцца паспяхова толькі на грунце трывалай народнай маральнасці. Гэты грунт яшчэ ёсць, яшчэ дарэшты не знішчаны, не размыты, хаця з кожным днём разбураецца ўсё глыбей. Сорамна і балюча бачыць, што адбываецца з душой чалавека, у што ператвараюцца людзі. Балюча, бо мы, беларусы, заўсёды вызначаліся прыродным пачуццём маральнасці, добрасумленнасці, прыстойнасці, нас паважалі за працавітасць і сціпласць, за дабрыню і спагадлівасць. Гэтыя якасці ў нашым характары ўсё больш і больш трацяцца, і мы няйначай як змірыліся з гэтым, махнулі самі на сябе рукой — маўляў, усё адно пагібель, ну, дык так нам і трэба. Гэта — страшна. Гэта — самае горшае, што можа здарыцца з грамадствам.

Перад выбарамі ў Вярхоўны Савет у мяне былі падставы сумнявацца, што ў лік народных дэпутатаў Беларусі трапіць многа людзей, нераўнадушных да лёсу роднае мовы і культуры. Хаця — толькі ад Саюза пісьменнікаў Беларусі ў барацьбе за дэпутацкі мандат удзельнічала дваццаць чалавек. Былі ў спісах кандыдатаў і многія дзеячы беларускага мастацтва, культуры, адукацыі, гуманітарнай навукі, якія, стаўшы дэпутатамі, маглі б істотна ўплываць на вырашэнне пытанняў, датычных духоўнага жыцця нацыі. На выбарах здарылася тое, што магло здарыцца толькі ў Беларусі. З дваццаці пісьменнікаў у Вярхоўны Савет было выбрана ўсяго трое, кампазітараў і музыкаў — ніводнага, мастакоў і скульптараў — ніводнага, артыстаў — ніводнага, кінадзеячаў — ніводнага і г.д. Такія ўжо ў нашай краіне склаліся адносіны да творчай інтэлігенцыі. Не ў пашане ў нас ні сам хлеб духоўны, ні тыя, хто аб ім клапоціцца — каб ён быў, каб не галадала душа чалавечая. У выніку — у складзе дэпутацкага корпуса пераважаюць людзі, якія жывуць перш за ўсё клопатам аб хлебе надзённым. Пытанні значэння і ролі ў жыцці грамадства мовы, мастацтва, культуры, адукацыі і навукі іх, на вялікі жаль, хвалююць мала. Некаторых — хутчэй раздражняюць, чым хвалююць. Есць два-тры таварышы-дэпутаты, якія, груба кажучы, аж на сцяну лезуць — калі толькі ў зале пасяджэнняў заходзіць размова пра дзяржаўнасць беларускай мовы, пра неабходнасць беларусізацыі Беларусі. Зрэшты, і крыўдаваць на глухату многіх дэпутатаў да гэтага нашага болю — не прыходзіцца. Як-то кажуць, гэта не так віна іх, як бяда-няшчасце.

Тым не менш, вельмі важныя для духоўнага развіцця нацыі законы аб культуры і адукацыі Вярхоўным Саветам рэспублікі прыняты. Думаю, што і работа ў парламенце, і само жыццё патроху вучаць народных абраннікаў і павазе да мовы народа, і нацыянальна-гістарычнай самасвядомасці.

Я, відаць, не зусім пагаджуся, што рух за нацыянальнае адраджэнне Беларусі ператварыўся ў «элітарны занятак», у «жартаўлівую гульню», а не стаў рэальным жыццём чалавека. Нішто сабе жарт-гульня, калі ў Гародні, напрыклад, бацькі падалі ў суд на гарвыканкам за тое, што СШ № 11, дзе вучацца іх дзеці, пераведзена на беларускую мову навучання. І пракуратура падтрымала іск бацькоў, і суд будзе разглядаць справу. Будуць СУДЗІЦЬ мову народа, мову гэтай зямлі — за тое, мабыць, што яна яшчэ не адмерла, не сканала, што хоча ацалець і выжыць. Так што рух за адраджэнне шырыцца і становіцца жыццём, але на яго шляху паўстаюць моцныя перашкоды, якія хутка і лёгка не пераадолееш. Нас чакае вялікая-вялікая работа, разлічаная на доўгі-доўгі час,— работа ў межах дзяржаўнага Закона аб мовах, зразумела.

Беларуская мова на працягу, бадай, чатырох стагоддзяў знаходзілася ў вельмі неспрыяльных, экстрэмальных умовах. За колькі ж часу можна вярнуць упушчанае? За год — за два? Ды не, вядома. Прышчапляць нашу мову ў душах і сэрцах жыхароў Беларусі давядзецца доўга. Да тагс стану, калі гаварыць ёю будзе гэтак жа натуральна, як дыхаць, як жыць, можа быць, мы дойдзем толькі праз некалькі пакаленняў. І не трэба ад гэтага ўпадаць у песімізм. Мова належыць да катэгорый, лёс якіх вырашаецца на абсягах вякоў, а не ў межах аднаго ці двух дзесяцігоддзяў. Па маіх назіраннях усё больш грамадзян рэспублікі спрабуюць вярнуцца да беларускай мовы. Шчаслівае вяртанне! І хаця такіх фактаў яшчэ не вельмі шмат — давайце ўсё ж парадуемся ім. Бо нядобра, што мы трацім здольнасць спачуваць, пакутаваць, але нядобра і тое, што мы развучыліся радавацца. Хаця дасягненні яшчэ нязначныя, іх трэба ўспрымаць аптымістычна. Трэба верыць, што справядлівасць пераможа.

Русіфікацыя Беларусі, усяго дзяржаўнага, грамадскага, духоўнага жыцця ў рэспубліцы дасягнула памераў жахлівых. Жахлівых — для лёсу нашай мовы, нашай культуры, нашай духоўнасці, для лёсу самой беларускай нацыі. Далей каціцца ўжо няма куды. Нацыянальна свядомыя беларусы, перш за ўсё з ліку творчай і навуковай інтэлігенцыі, зразумелі гэта даўно і — сапраўды жахнуліся. І ўзнялі голас пратэсту. І ўзяліся за справу, за працу. За пошук спосабаў процістаяння канчатковай русіфікацыі, за арганізацыю неабходнай работы па самавыратаванні. Складанасць гэтай задачы ў тым, што руская мова амаль цалкам выцесніла беларускую не толькі ў сферах вытворчых і абслугоўчых, але і ў такіх прэстыжных сферах, як культура, навука, адукацыя. Як і сто гадоў назад, у псіхалогіі шырокіх колаў насельніцтва Беларусі пануе нялюдскі міф, што калі ты хочаш далучыцца да сапраўднай культуры, то павінен адцурацца беларускай мовы і перайсці на рускую, карыстацца рускай. Гэта псіхалагічная настройка заўсёды жывіла і працягвае жывіць рускамоўную традыцыю на беларускай зямлі. Як ні горка гаварыць, але руская плынь не толькі пераважае, але і падаўляе беларускую паўсюдна і скрозь. Беларускамоўныя астраўкі хоць і шырэюць, разрастаюцца — застаюцца ўсё ж астраўкамі ў бязмежнай іншароднай стыхіі. Пералому не адбылося — бо не адбылося пераходу на ўласны, нацыянальна беларускі тып думання, самапачування. Беларускае ў духоўна-культурным жыцці рэспублікі выглядае ўсё яшчэ нейкім даважкам ці, калі хочаце, дамешкам — дзеля надання экзатычнага «заходне-рускага» каларыту агульнаму культурнаму варыву.

Але тэндэнцыя прарастання ў будучыню больш моцная сёння ў самабытнай беларускай культуры. Толькі ёй патрэбна належная — дзяржаўная і грамадская — падтрымка. І тады пануючай стане яна — што будзе і натуральна і нармальна для цывілізаванага грамадства. Так ёсць у любой незалежнай краіне свету. А рускамоўная культура будзе займаць адпаведнае — не сумняваюся: вельмі значнае! — месца. Значнае, але — не дамінуючае, як цяпер. Руская культура будзе плённа засвойвацца намі — як і дагэтуль, будзе падтрымліваць развіццё беларускай культуры, узбагачаць і жывіць яе. Як і іншыя культуры свету, толькі — у непараўнана большай меры. Адпаведна маштабам і сіле традыцый.

Пытаеце пра шляхі паразумення дзвюх плыняў?.. Наколькі мірным і плённым будзе іх суіснаванне і супрацоўніцтва — залежыць, вядома, ад мудрасці, ад меры чалавечнасці і маральнай вышыні абодвух бакоў. Кажу: абодвух, але асабліва хацеў бы падкрэсліць ролю і абавязак, якія ўскладаюцца ў гэтай сітуацыі на прадстаўнікоў сённяшняй рускамоўнай плыні. Тут будзе мець значэнне перш за ўсё тое, як хутка тэарэтыкі і практыкі русіфікацыі перагледзяць, усаромеўшыся, свае пазіцыі, прызнаюць, што весці далей лінію на асіміляцыю беларускай мовы і культуры — справа, па-першае, ганебная, а па-другое, — безнадзейная. Вырастаюць і прыходзяць у жыццё новыя, маладыя пакаленні, якія гэту ісціну зразумеюць своечасова. Дапаможа ім у гэтым новая гістарычная рэальнасць — станаўленне незалежнай беларускай дзяржавы, у якой не на словах, а на справе беларуская мова павінна будзе заняць становішча дзяржаўнай.

Бясспрэчна, складваецца, фарміруецца г.зв. «сярэдні клас» — у свеце ён здаўна вядомы як клас буржуазіі.

Так, мабыць, і трэба называць — каб не туманіць вочы людзям, якія не здавалі экзаменаў па палітэканоміі. З каго ён утворыцца, гэты новы, «сярэдні клас»? Па-вашаму, і беларускія паэты, г.зн. дзеячы культуры, і «прыгонныя калгаснікі» да класа буржуазіі не далучацца — нас, маўляў, чакае доля люмпенаў. І аб'ядноае нас іменна яна, а не любоў і павага да мовы, не прыхільнасць да нацыянальнага беларускага адраджэння. Пытанне няпростае. З гісторыі вядома, што ва ўсіх краінах, якія станавіліся на шлях незалежнасці, маладая буржуазія падтрымлівала нацыянальна-вызваленчы рух, нацыянальнае адраджэнне. Але гэта было даўно, а ў гісторыі раз на раз прыпадае далёка не заўсёды. Ці павернецца тварам да Бацькаўшчыны «сярэдні клас» у Беларусі?

Пакуль што прыкмет такога павароту, на вялікі жаль, не відно (асобныя, адзінкавыя праявы сімпатый прадпрымальнікаў да беларушчыны пагоды не робяць). Як не завалодала беларуская ідэя ранейшымі гаспадарамі жыцця — гэтак жа не спяшаюцца даць ёй у душы месца і тыя, хто повен амбіцыі і нецярпення загаспадарыць сёння. Зрэшты, многія сённяшнія вараці́лы — гэта тыя ж вараці́лы ўчарашнія, толькі ў пераніцаванай скуры. Скуру пераніцавалі, ну а душа-то асталася той самай — чужой і сцюдзёнай, абыякавай да лёсу нашай мовы і культуры. «А причём здесь язык?! — крычыць такая скасабочаная душа.— Я тоже за независимость Беларуси, но — причём здесь язык?!»

І ўсё ж наднацыянальная хваля — веру ў гэта! — не пахавае пад сабой першыя парасткі беларускага нацыянальнага адраджэння. Паяўляцца свядомыя патрыёты-беларусы і сярод прадпрымальнікаў, і сярод высокапасадных чыноўнікаў, і сярод людзей вайсковых. Яны паяўляюцца ўжо. І ў гэтых сацыяльных сферах беларуская ідэя трохі-патрохі пачне знаходзіць разуменне і падтрымку. Толькі трэба больш актыўна гэту ідэю прапагандаваць. І трактаваць яе як ідэю нацыянальнай згоды.

Якая мова можа нас аб'ядна́ць,— зразумела: наша родная, наша цудоўная беларуская мова! Адна з самых прыгожых і мілагучных моў не толькі ў славянскім свеце, але і на абшарах заселенай людзьмі планеты. Мова, дасканала распрацаваная за стагоддзі ва ўсіх магчымых стылях пісьменства. Мова, прызнаная чалавецтвам ужо хаця б за тое, што на ёй створаны геніяльны фальклор і вялікая мастацкая літаратура. Але пытанне я разумею — маецца на ўвазе тое, што з нашай літаратурнай мовай зараз адбываецца. А адбываюцца рэчы, не дазволеныя нават ва ўмовах таго грамадска-палітычнага і духоўна-маральнага развалу, у якім мы сёння знаходзімся. Незадаволеныя правапісам, асноўныя прынцыпы якога былі ўзаконены ў 1933 годзе (удакладненні ў 1957 годзе мелі прыватны характар і лічыцца рэформай не могуць), мы пачалі перайначваць нашу літаратурную мову хто як уздумае — кожны на свой лад. Вядома, рэформа правапісу 1933 года была нашай мове ў цэлым не на карысць, бо зыходзіла з вульгарных палітычных установак (зрабіць яе як мага больш падобнай — і фанетычна, і граматычна, і лексічна, і сінтаксічна — на рускую).

Наспела пільная неабходнасць вярнуцца да правапісу — з тым, каб удасканаліць яго ў інтарэсах самой мовы, у інтарэсах нацыі, якая зусім не думае нівеліравацца і траціць сваё ўласнае аблічча. Патрыёты роднага слова няйначай як пачалі выходзіць з цярпення і самапраўна вяртацца на старонках друку або да граматыкі Бр. Тарашкевіча, або і да яшчэ ранейшых беларускіх граматык. Зразумець іх нецярпенне можна, але ўвогуле гэта шлях не з лепшых. Лепш было б спачатку ўзаконіць неабходныя змены ў правапісе. Чаму гэта не зроблена і не робіцца? Больш года назад перад кіраўніцтвам Акадэміі навук Беларусі была пастаўлена задача рыхтаваць навуковую канферэнцыю, каб абмеркаваць — хаця б «у першым чытанні» — праект удасканалення правапісу беларускай літаратурнай мовы. На вялікі жаль, да гэтага часу такая канферэнцыя не адбылася. Віна кладзецца не толькі на навукоўцаў Акадэміі, але і на тых, хто павінен выкананне такіх задач

Заканчэнне на с. 6.



 

# Браніславу ТАРАШКЕВІЧУ 100!



***20 студзеня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча (1892—1938), беларускага грамадскага і палітычнага дзеяча, філолага, аўтара першай «Беларускай граматыкі для школ». З 1916 па 1918 год Браніслаў Тарашкевіч працаваў на кафедры рускай мовы і славеснасці Петраградскага універсітэта. Загадваў культурна-асветніцкім аддзелам Беларускага нацыянальнага камісарыята, яго Петраградскага аддзялення. У 1917 годзе адзін з лідэраў Беларускай сацыялістычнай грамады, з 1918 — Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. У 1919 годзе выкладчык беларускай і грэчаскай моў у Менскім педагагічным інстытуце. У 1920 годзе загадчык беларускага сектара дэпартамента асветы так званай Сярэдняй Літвы, у 1921—1922 гадах дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, адзін з кіраўнікоў і заснавальнікаў Таварыства беларускай школы. У 1922 годзе Браніслаў Тарашкевіч выбраны дэпутатам Сейма Польшчы, дзе ўзначаліў Беларускі пасольскі клуб (да 1924 года). З трыбуны Сейма выступаў у абарону сацыяльных і нацыянальных правоў працоўных Заходняй Беларусі. У 1925 годзе Браніслаў Тарашкевіч выйшаў са складу пасольскага клуба і з групай левых дэпутатаў заснаваў Беларускую сялянска-рабочую грамаду, дзе быў старшынёй ЦК. У снежні 1925 года стаў членам КПЗБ. У студзені 1927 года арыштаваны польскімі буржуазнымі ўладамі, а ў маі 1928 года асуджаны на 12 гадоў турмы. У 1930 годзе спецыяльным распараджэннем Прэзідэнта Польшчы Тарашкевіч быў вызвалены, а ў лютым 1931 года зноў арыштаваны дэфензівай і ў лістападзе 1932 года асуджаны за палітычную дзейнасць на 8 гадоў катаржнай турмы. З верасня 1933 года ў выніку абмену палітзняволенымі Тарашкевіч жыў у СССР, займаўся навуковай і літаратурнай дзейнасцю.***

***Браніслаў Тарашкевіч пераклаў на беларускую мову «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча, «Іліяду» Гамера, а ў апошнія гады жыцця напісаў уступны артыкул да кнігі «Інтэрпаляцыі беларускіх паслоў у польскі Сейм». Найбольш вядомай працай Тарашкевіча з'яўляецца «Беларуская граматыка для школ».***

***29 лістапада 1938 года ў Менску Браніслаў Тарашкевіч быў расстраляны бальшавікамі.***

***Да 100-годдзя з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла «Выбранае» (укладанне, уступ і каментарыі Арсеня Ліса), куды ўвайшлі публіцыстычныя выступленні Тарашкевіча ў Сейме Рэчы Паспалітай Польшчы, а таксама мовазнаўчыя і літаратуразнаўчыя эцюды і фрагменты з «Іліяды» Гамера.***

***Прапануем чытачам фрагменты з уступнага слова А. Ліса.***



# *У абарону сейбіта*

Так здарылася, што з самага пачатку жыццёвыя пуцявіны Тарашкевіча нечакана перакрыжаваліся са шляхамі-дарогамі Максіма Багдановіча, іншымі лёсамі, значнымі ў духоўнай гісторыі беларусаў. Тарашкевічу давялося замяніць паэта на адным полі дзейнасці, якое рыхтавалі яму грамадскія абставіны пачатку стагоддзя,— стаць стваральнікам першай граматыкі сучаснай беларускай мовы, упарадкавальнікам нацыянальнага правапісу.

Няпростую гэту працу-місію меркавалі напачатку даручыць Максіму Багдановічу. Кіраўніцтва рэдакцыі «Нашай нівы» дамовілася з акадэмікам Шахматавым падрыхтаваць на кафедры рускай мовы і славеснасці Пецярбургскага універсітэта філолага-беларусазнаўца. Але жыць у паўночнай сталіцы паэту не дазволіла здароўе. Тады выбралі выпускніка 2-й Віленскай гімназіі, сына селяніна з-пад віленскіх ваколіц Браніслава Тарашкевіча. К гэтаму часу дзевятнаццацігадовы Тарас (так звалі Браніслава Тарашкевіча родныя і знаёмыя) паспеў прайсці не толькі першыя ўрокі палітграматы ў нелегальных гуртках віленскай прагрэсіўнай моладзі, але і засвоіць асновы «беларушчыны», заходзячы ў рэдакцыю «Нашай нівы». Спадзяванні на будучага філолага ўскладаліся немалыя. Тарашкевіч яшчэ толькі пачаў трэці курс гісторыка-філалагічнага факультэта, а Янка Купала, які знаў яго асабіста, пісаў у Пецярбург ад імя Беларускага выдавецкага таварыства:

«Дзядзька Тарас! Што чуваць у Вас з беларускай граматыкай? Ці што-небудзь зрабілі ў гэтым напрамку? Калі маеце ўжо яе нарыс, то будзьце ласкавы прыслаць нам яго, калі не, то будзьце такімі добранькімі і спрытнымі ды як хутчэй гэта зрабіце... Граматыку Вашу хоча Таварыства выдаць і пусціць у свет у «назіданіе» маладому беларускаму пакаленню. Дык варушыцеся, дзядзька, і ў шапку не спіце. Чакаем хуткага ад Вас адказу. Шчыра Вам адданы сакратар выдавецтва І. Луцэвіч».

Купала яўна прыспешваў падзеі; маладому філолагу яшчэ належала як мінімум да канца засвоіць універсітэцкі курс навук перад тым, як стварыць нешта такое, што б заслугоўвала ўвагі цэлага пакалення. Але адчуванне не падманула паэта: яго малодшаму сабрату такі ўдалося стварыць штосьці такое, да чаго звярталася не адно пакаленне ўдзячных суайчыннікаў.

Дваццацігадовы беларускі філолаг зрабіў тое, што было пад сілу спрактыкаванаму, самавітаму вучонаму. Праўда, Тарашкевіч як мовазнавец пачынаў не на голым месцы. Сістэма беларускай мовы была ўжо апісана акадэмікам Я. Ф. Карскім. І цяпер, працуючы над практычнай граматыкай мовы свайго народа, Тарашкевіч адчуваў дзейсную заклапочанасць у рэалізацыі сваёй працы з боку двух вучоных — непасрэднага кіраўніка яе на кафедры акадэміка А. А. Шахматава і прызнанага беларусазнаўца, земляка Я. Ф. Карскага.

Работу маладога даследчыка прыспешвалі самі падзеі. Выбраны вясной 1917 г. у Менску на з'ездзе беларускіх грамадска-палітычных арганізацый у яго культурна-асветную камісію, выпускнік цяпер ужо Петраградскага універсітэта, пакінуты пры ім для падрыхтоўкі да прафесарскага звання, сам востра мог адчуць, як патрэбна цяпер беларуская граматыка не толькі для пашырэння пісьменнасці, асветы (тады востра, актуальна стаяла пытанне аб беларускай школе), але і для росту нацыянальнай самасвядомасці народа.

К восені 1917 г. работа над «Беларускай граматыкай» была закончана. Факт гэты быў належна ацэнены перыёдыкай, і ў першую чаргу газетай «Вольная Беларусь». Купалавы словы ў канцы рукапісу: «А хто там ідзе, а хто там ідзе, у агромністай такой грамадзе? — Беларусы. А чаго ж, чаго ж захацелася ім, пагарджаным вякі, ім, сляпым, глухім? — Людзьмі звацца»,— выпісаныя выразным роўным почыркам, маглі пасведчыць, над чым думаў аўтар «Беларускай граматыкі», што стымулявала яго духоўна ў час працы. Праз нейкія дзесяць год Тарашкевіч зноў звернецца да праграмнага Купалавага твора. Згадае прарочыя словы паэта ў сваім апошнім слове, калі польскі буржуазны суд будзе судзіць яго як лідэра Беларускай сялянска-рабочай грамады.

...Каб хутчэй убачыць свайго першынца надрукаваным, Тарашкевіч у чэрвені 1918 г. праз Фінляндыю выбіраецца ў Вільню. Тут заставалася грамадка выпрабаваных часам, супольнай працай культурнікаў, быў Марцін Кухта, друкам якога ўжо не адна беларуская кніжка пайшла ў свет.

Хадайнічанне перад акупацыйнай адміністрацыяй аб дазволу на друк узяў на сябе Беларускі камітэт. Аляксандр Уласаў, насмешлівы дзядзька Уласаў, паклапаціўся, настаяў на тым, каб аўтар «Беларускай граматыкі для школ» не застаўся на вокладцы свайго першынца без належнага тытулу. Пры прозвішчы Б. Тарашкевіча быў адціснуты разгорнуты дадатак — «кандыдат філалогіі Петраградскага універсітэту». Усё гэта рэчы прыватныя ў параўнанні з самім фактам выхаду «Беларускай граматыкі». Ды яшчэ напярэдадні навучальнага года.

Што і казаць, граматыка Тарашкевіча падаспела ў пару: рэвалюцыя ўзмацніла ў народзе цягу да самапазнання. А гэта апошняе было цаглінкай да светлай будучыні, якая ўжо мроілася не аднаму сыну гэтай зямлі праз абвешчанае рэвалюцыяй самавызначэнне, самаакрэсленне народаў.

Тарашкевічу ўдалося тэарэтычна глыбока асэнсаваць практыку пісьмовай традыцыі сучаснай яму беларускай мовы, трапна ахарактарызаваць яе тыповыя рысы, асаблівасці, стварыць арганічны яе духу правапіс, выпрацаваць адметную лінгвістычную тэрміналогію. Наколькі грунтоўна ўсё гэта было зроблена, можа, пэўна, пасведчыць той факт, што і праз гады ў аснове сучасных граматык беларускай мовы застаўся абгрунтаваны Тарашкевічам погляд на фанетычную і марфалагічную яе сістэму, захоўваецца прапанаваны ім правапіс і тэрміналогія. Першая «Беларуская граматыка» сучаснай літаратурнай мовы была, такім чынам, этапнай з'явай у шэрагу аналагічных прац. Гэта не раз адзначалі, пацвярджалі мовазнаўчыя аўтарытэты. Адзін з іх, акадэмік С. Некрашэвіч, здаецца, дакладна акрэсліў навуковае значэнне здзейсненага Тарашкевічам, сказаўшы, што праца вучонага «заснавала цэлую эру ў гісторыі нашай граматыкі і правапісу».

Тарашкевічу, які добра засвоіў вопыт рускіх лінгвістаў, вывучаў прынцыпы фарміравання польскай, чэшскай граматык, удалося арганічна спалучыць народную моўную аснову (філолаг быў вельмі ўважлівы да дыялектаў) з шматвяковай пісьмовай традыцыяй. У гэтым была таксама адна з прычын даўгавечнасці яго «Беларускай граматыкі». Асветна-грамадскую ролю «Беларускай граматыкі» Тарашкевіча, якая з'явілася ў свет на піку грамадскіх зрухаў, хуткіх зменаў розных палітычных падзей на Беларусі, абуджэння народа,— цяжка пераацаніць. Тонкая кніжка гэтая была своеасаблівым рычагом уздыму беларускай нацыянальнай свядомасці. Асабліва ў Заходняй Беларусі, дзе яна за непрацяглы час 5 разоў выдавалася і перавыдавалася. І, бясспрэчна, стала неад'емным элементам таго духоўнага шчыта, які народ і яго інтэлігенцыя ўзнялі супраць паланізацыі і русіфікацыі краю. Такім чынам, факт навуковы, асветны рабіўся фактам палітычным. Зрэшты, так складаўся лёс маладога вучонага, так дыктавалі гістарычныя ўмовы жыцця яго народа, што ў ягонай дзейнасці навука, літаратура, палітыка незвычайна цесна перапляліся, пазначаныя адной вялікай, неадступнай думай аб будучыні.

**Арсень ЛІС.**

*Браніслаў ТАРАШКЕВІЧ*

# Прадмова да «Беларускай граматыкі для школ»

Мінула роўна дзесяць год, як выйшла ў свет «Беларуская граматыка для школ». За гэты час беларуская мова сталася не толькі мовай прыгожага пісьменства ды разнароднай публіцыстыкі, але і мовай дзяржаўнаю або прызнанаю дзяржавай у публічным жыцці. «Народнае нарэчча» сілаю сталася «літаратурным языком». Гэта бессумліўны факт незалежна ад тае ці іншае ступені зродненасці беларускай мовы з іншымі славянскімі.

Вялікае грамадскае значэнне беларускае мовы вымагае ад культурных работнікаў асабліва ўважлівага апрацавання яе як з боку навуковага, так і для школьнага ўжытку.

«Беларуская граматыка для школ», выдадзеная першы раз у 1918 годзе, мела сваім заданнем замацаваць і ўпарадкаваць выясніўшыяся ўжо тады граматычныя асновы беларускай літаратурнай мовы ды ўстанавіць сталы правапіс.

Практыка жыцця і прысвечаная (кніжцы) крытыка за дзесяць гадоў прызналі, што «ўсё найважнейшае зроблена добра». Правапіс усталіўся і мае за сабою некаторую традыцыю.

Але тая самая практыка і крытыка паказалі на некаторыя пахібы, а нават, хоць толькі часткова, і папраўілі іх.

Аўтар «Беларускай граматыкі для школ» сам цяпер бачыць дужа выразную цэлую чараду яшчэ сур'ёзных пытанняў (у аканні, у правапісе чужаземных слоў і інш...), бачыць патрэбу і магчымасць спрашчэння правапісу, але не бярэцца праводзіць якія-колечы паважнейшыя змены такім індывідуальна-партызанскім спосабам, накідаючы свой праект праз школьны падручнік. Гэта павяло б толькі да шкоднага хаосу.

Рэформа правапісу, калі мае быць праведзена, мусіць быць праведзена ў цэласці ды ў сувязі з рэформай пісьма і пераглядам граматычных формаў (марфалогія). Адпаведныя праекты павінны быць апрацаванымі паасобнымі адзінкамі, але прайсці праз публічнае сіта грамадскай і навуковай крытыкі перш, чым маюць быць уведзенымі ў жыццё аўтарытэтам культурных установаў. Бо тутака паспех, сапраўды, можа быць людзям на смех.

Горш за тое: ненавязаныя паасобныя змены «на лепшае» могуць заграмадзіць і загарадзіць дарогу да сапраўды добрай рэформы. Дзеля гэтага аўтар устрымаўся ад увядзення і тых змен, якія прыняла «Акадэмічная канферэнцыя па рэформе правапісу і азбукі», скліканая інстытутам беларускае культуры 14 лістапада 1926 г. у Менску.

Ёсць над чым падумаць і папрацаваць, дык можна і трэба пачаць, высцерагаючыся, каб лепшыя новыя дэталі не псавалі больш-менш неблагога цэлага, якое ўжо існуе.

Цяперашняе выданне «Беларускай граматыкі для школ» мае на ўвазе неабходныя патрэбы беларускай школы і ўсіх тых многіх, што жадаюць вывучыць беларускую мову шляхам саманавучання.

Гэтае выданне спаўна перароблена і значна пашырана ў параўнанні да ўсіх папярэдніх выданняў...

**Грудзёндз 13.8.1928.**

*Гутарка са старшынёй беларускай сялянскай партыі* ***Я. М. ЛУГІНЫМ***

# БСП: БЕЛАРУСКІ СЕЛЯНІН НАКОРМІЦЬ НАРОД, КАЛІ СТАНЕ ГАСПАДАРОМ НА ЗЯМЛІ

*Сялянства, абрабаванае да ніткі. *Мэта партыі — правесці зямельную рэформу.* Каравул! Калгасы разганяюць!.. *Адкрыты ліст Генеральнаму пракурору. * Хаджэнне па пакутах беларускага фермера. * У якую партыю беднаму селяніну падацца?*

Яшчэ нядаўна такое і ўявіць было цяжка. Пенсіянер падаў у суд на старшыню калгаса і выйграў працэс. А пачалося з таго, што Уладзімір Сурма з-пад Баранавіч па дазволу сельсавета засеяў жытам 15 сотак зямлі, якія пуставалі побач з яго агародам. Старшыня ж калгаса паслаў трактар, каб пасевы пераараць. І вось рашэнне суда: аплаціць страты, якія панёс пенсіянер. Выйграць працэс дапамагла Уладзіміру Сурме Беларуская сялянская партыя. Натуральна адсюль наша пытанне ў гутарцы са старшынёй гэтай партыі Яўгенам Міхайлавічам Лугіным:

**— Чаго дабіваецца БСП?**

— Вядома, што наша сялянства ніколі не мела палітычнай абароны. У цывілізаваных краінах яго інтарэсы прадстаўляюць розныя хрысціянска - дэмакратычныя партыі. А што ў нас? Селяніна як рабавалі ўсё ягонае жыццё, так і цяпер рабуюць да ніткі. І называем яго яшчэ нашым кармільцам. Вось для абароны яго эканамічных і палітычных правоў і створана сялянская партыя. Існуе яна ўжо год. Зарэгістравана ў Мінюсце.

Мае каля 5 тысяч членаў. І хоць прадстаўлены ў ёй усе пласты грамадства, большасць яе членаў — з сельскай мясцовасці. Наша мэта на бліжэйшы час — правесці зямельную рэформу. Мы хочам вярнуць селяніну права на зямлю, сродкі вытворчасці і на выніку сваёй працы.

На зямлі павінен працаваць гаспадар, а не раб. Тыя, хто вырас пры калгасна-саўгаснай сістэме, не могуць сабе ўявіць, як можна селяніну жыць інакш. Першымі паднялі лямант наменклатуршчыкі: «Каравул! Калгасы разганяюць!..» Гэта няпраўда. Мы кажам так: калгасы трэба рэфарміраваць. Гэта значыць, ператварыць іх у асацыяцыі — фермераў, арандатараў або акцыянерныя таварыствы. Тое ж і з саўгасамі. А кожнаму працаўніку выдаць два дакументы. Адзін — гэта акт на валоданне зямлёй. Другі дакумент — дазвол на валоданне маёмасцю, што яму належыць у калгасе ці саўгасе. І няхай самі людзі вырашаюць: ці працаваць па-старому, ці аб'ядноўвацца ў кааператыў, ці гаспадарыць самастойна.

**— Апошнім часам прынятыя законы аб зямлі. Як яны выконваюцца?**

— Год назад я ездзіў у Літву, каб вывучыць вопыт іх фермерскай гаспадаркі. У той час там было ўжо 4500 самастойных гаспадарак і 7 тысяч заяў чакала разгляду. Прычым, падкрэсліваю, ні адзін калгас не быў разагнаны. У нас жа на сённяшні дзень толькі 600 чалавек атрымалі зямлю. Як відаць, зямельная рэформа тут топчацца на месцы, мясцовыя ж улады ўсяляк ёй супраціўляюцца. Нядаўна аб гэтым я напіўсаў адкрыты ліст Генеральнаму пракурору рэспублікі М. І. Ігнатовічу. Прывяду толькі некалькі прыкладаў з яго. Па закону мясцовыя ўлады павінны даваць адказ на кожную просьбу аб выдзяленні зямлі. Паколькі на адмоўныя адказы мы звяртаемся ў пракуратуру, бюракратыя наогул перастала прымаць заявы.

**— Можа, няхай сяляне вам перасылаюць свае заявы. А вы зарэгіструеце іх і накіруеце куды трэба.**

— Мы так і ставім пытанне. І ўжо вядзём работу сумесна з урадавым Камітэтам па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню. Але бюракратыя зноў памяняла тактыку. Даюць людзям зямлю на такіх умовах, каб тыя самі ад яе адмовіліся. Выдзяляюць на тарфяніках, зарослу кустамі, далёка ад жылля. А то яшчэ ў аднаго адрэжуць і дадуць другому. Каб уцягнуць іх у спрэчкі. Або каб намучыўся са сваім надзелам ды і кінуў. Карацей, бюракратыя не хоча ніякіх змен.

**— У апошняй урадавай пастанове сказана, каб такіх прыцягвалі да адказнасці...**

— Усё гэта фікцыя. Мясцовыя ўлады кажуць: пастанова для нас не закон.

**— Але ж і закон быў.**

— Так. Але ён таксама не працуе. Таму я і пытаю Ігнатовіча: колькі людзей вы прыцягнулі да адказнасці за парушэнне закона аб зямлі? Самі мы сваіх прыхільнікаў абараняем трыма сродкамі: праз народных дэпутатаў усіх узроўняў, праз суды і праз сродкі масавай інфармацыі. Дзейнічаем па закону, як партыя парламенцкага тыпу.

**— Мець зямлю, — мала. Трэба яе яшчэ апрацаваць...**

— Гэта цяжкае пытанне. У Літве, напрыклад, калі фермер бярэ зямлю, яму туды пракладаюць дарогу, лінію электраперадач, выдзяляюць не менш 50 кубоў лесу, 70 тысяч штук цэглы. Такі дзяржаўны падыход. А ў нас — кансерватыўнае засілле... Праўда, некаторыя фермеры становяцца ў чаргу на тэхніку ў сялянскім саюзе, адкрываюць рахунак у банку. Але ўсё гэта даецца праз фермерскае хаджэнне па пакутах.

**— Чаму ў чаргу на тэхніку становяцца ў сялянскім саюзе?**

— Бо ў нас цяпер ёсць тры палітычныя сілы на вёсцы. Адна — гэта наша партыя. Другая — сялянскі саюз. Яна аб'ядноўвае тых, хто ўжо ўзяў зямлю. І вырашае ў асноўным гаспадарчыя задачы. Трэцяя сіла — саюз аграрнікаў. Быў створаны ў свой час беларускай кампартыяй — каб абараніць калгасна-саўгасную сістэму. Да гэтага часу не могуць зразумець новыя рэаліі. І хоць мы прапаноўваем ім супрацоўніцтва, ад гэтага адмаўляюцца. Думаю, і самастойным гаспадарам ад іх будзе невялікая падтрымка. Але няхай сяляне самі вырашаюць, на каго ім спадзявацца.

**— А якія вашы планы на будучае?**

— У сакавіку правядзём другі з'езд сваёй партыі. Цяпер праходзяць раённыя канферэнцыі. Ствараюцца органы кіраўніцтва, выбіраюцца дэлегаты на з'езд.

Работы шмат. Але галоўнае для нас — інтарэсы гаспадароў, правядзенне зямельнай рэформы.

**Распытваў А. СІЛЯНКОЎ.**

*Крокі беларусізацыі*

## Справаводства — на роднай мове

1992 год у Пухавіцкім раённым аддзеле народнай адукацыі сустрэлі добрым падарункам справе беларускага Адраджэння — усё справаводства пераведзена на родную мову. Знайшліся для гэтага і машынкі з беларускімі «і» і «ў».

Але ж ці ва ўсіх школах Пухаўшчыны даніна пашаны і, калі хочаце, афіцыйнага прызнання аддадзена роднай мове? Заўважым, у школах таго раёна, дзе некалі працавалі настаўнікамі пісьменнікі Мікола Лобан, Алесь Пальчэўскі, Васіль Гарбацэвіч, дзе нарадзіліся Міхась Чарот і Уладзімір Хадыка.

А. К.

## Права Міхася Варанца

Вось кажуць, што ў сцвярджэнні роднай мовы, у змаганні за шырэйшы яе ўжытак павінна быць меней эмоцый, баявітасці. Маўляў, ваяўнічасць зусім не на карысць справе. На мой погляд, нам, беларусам, наадварот, замінаюць ціхмянасць і лішні спакой. Прывесці прыклад? Калі ласка!

Жыве ў вайсковым гарадку ў Печы (паблізу Барысава) беларус Міхась Варанец. Дадаць след да гэтага і тое, што ён яшчэ і маёр Савецкай Арміі. Ды дзіўнае жаданне (па вайсковых мерках калі браць) у нашага земляка:

— Хачу, каб дачка мая вучылася ўсім навукам на роднай мове,— гаворыць, просіць, патрабуе Міхась Варанец.

І патрабуе, заўважым, па закону. Ужо не будзем рабіць акцэнт на маральны бок справы. Хаця і гэта — тэма для гаворкі... Дык вось, у Печынскім вайсковым гарадку ёсць сярэдняя школа. Толькі сёлета ў першы клас яе паступіла больш за сто хлопчыкаў і дзяўчынак. З беларускамоўнымі класамі (ці хаця б класам) тут не спяшаюцца. Хто ж мог падумаць, што і сярод вайскоўцаў знойдуцца беларусы. Тым больш — свядомыя. Міхась Варанец яшчэ і старшыня суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны. Праўда, нешматлікая яна ў вайсковым гарадку. Але ж не толькі ў колькасці справа...

Дачка Міхася ў школу ідзе ў новым навучальным годзе. Ды прадчуваючы няпростае развіццё падзей, згледзеўшы, што ў школе на яго, беларуса, пазіраюць, як на пячорную істоту, маёр Варанец напісаў рашучае пісьмо ў рэспубліканскае Міністэрства народнай адукацыі. Канешне, раней так патрабавальна да міністраў не звярталіся: «...настойліва прашу вас прыняць рашэнне, каб у 1992 годзе ў Печынскай школе адчыніўся беларускамоўны першы клас, нават калі мая дачка ў ім будзе адзінай вучаніцай».

Цытаванне — не заўсёды ўдзячная справа. Але ліст загадчыку Барысаўскага райгарана ў адказ на пісьмо М. Варанца ў міністэрства нельга не прывесці. Падаю арыгінал, без усякага перакладу:

«Направляется для рассмотрения заявление тов. Варанца М. А. аб абучэнні яго дачкі на беларускай мове.

О принятом решении просьба дать ответ заявителю, министерству у вызначаныя тэрмины...»

Якая «багатая» культура пісьмовай мовы ў галоўнага інспектара прыёмнай шаноўнага спадара С. С. Апанасіка! І які здзек над маёрам Міхасём Варанцом! Ён і далёка за межамі Беларусі роднага слова не цураўся!

А што ж у Барысаўскім райгарана? Адтуль адказ прагучаў больш «канструктыўны». Але як умова: набярэцца 12 і болей вучняў, то тады няхай да чацвёртага класа ўключна дачушка ваша, спадар Варанец, займаецца ў Печынскай (яна ж сярэдняя школа № 7 г. Барысава) дзесяцігодцы. Знойдуцца і настаўнікі, і месца. А пасля — калі ласка, у 20-ю беларускамоўную школу, якая яшчэ толькі будуецца. Не набярэцца 12 вучняў, то тады, калі ласка, адразу ў сярэднюю школу № 20. Вось і ўсе, маўляў, праблемы.

На наш жа погляд, праблема не вычарпана, і адказ на запытанне дадзены павярхоўны. Хацелася б перапытаць у кіраўніцтва народнай адукацыі ў Барысаве: чаму, згодна з якімі законамі для дачкі жыхара вайсковага гарадка Печы М. А. Варанца не могуць быць наладжаны заняткі на беларускай мове ў той школе, куды яна павінна будзе хадзіць адпаведна месцу свайго жыхарства? А што зроблена дзеля беларусізацыі сярэдняй школы № 7? Што робіцца ў навучальных установах горада для паступовага выканання Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь?

Чакаем адказу.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*Уражанні*

*Зора* ***КІПЕЛЬ***

## Камок пад горла, альбо дзе бацькаўшчына?

Калі я рабіла інтэрв'ю з моладдзю, якая толькі прыехала з падарожжа на Беларусь, маё стандартнае пытанне было: якое было вашае першае ўражанне, калі вы апынуліся на Беларускай зямлі? Адказы былі розныя, найчасцей не падобныя адзін да другога, як і павінна быць у маладых людзей, якія маюць сваю думку і ўспрымаюць рэчы індывідуальна, а не калектыўна.

Гэткае ж пытанне задала я сама сабе. Вось жа мой адказ: першае ўражанне было — поўная дэзарыентацыя. Пакінула я Беларусь, Менск у руінах, знішчаны, спустошаны. Зразумела, што я не спадзявалася ўбачыць руіны,— я дастаткова ведала з прэсы, з кніжак, са здымкаў, як быў разбудованы і адноўлены Менск — але я спадзявалася, што хутка зарыентуюся, хутка знайду нешта знаёмае. Але на што я спадзявалася найболей — гэта апынуцца ў Беларусі, дзе ўсе гавораць маёй мовай, адчуць сябе дома, на Бацькаўшчыне. Наіўныя спадзяванні, бо я ж ведала рэчаіснасць, але тым не менш спадзяванні і расчараванні.

Першы камок пад горла не падышоў, як мяне папярэджвалі жанчыны, якія былі ўжо на Беларусі, калі сцюардэса ў самалёце будзе вітаць нас у «Сінявокай Беларусі». Ці то сцюардэса забылася, ці то гэта не стандартнае прывітанне, але я гэтага спадзяванага прывітання не атрымала, як і не пачула амаль нідзе беларускай мовы на вуліцах беларускай сталіцы.

Камок пад горла хутка ўсё ж падступіў і нават уздрыганулі плечы. Было гэта ў першы дзень адчынення Кангрэса беларусістаў, калі цудоўная акадэмічная капэла заспявала Дубоўкава «О Беларусь, мая шыпшына» ды «Магутны Божа» нашай Наталлі Арсеньевай.

Пазней невялічкія экскурсіі па горадзе, а менавіта па Камароўцы, крыху адбілі ў памяці стары, знаёмы Менск, але не настолькі, каб камок пад горла падышоў.

Сапраўднае расчуленне прыйшло, калі я спаткалася з родзічамі на Глыбоччыне; калі я наведала старыя вясковыя могілкі, дзе пахаваныя дзед і бабка з боку майго бацькі; калі я абняла цёцю Нюту, якой цяпер ужо 96 гадоў, але якая мае светлы розум і памяць, мае здаровыя вочы, слых і ногі; калі я з імі гаварыла па-беларуску, як са сваімі некалі бацькамі; калі мы адзін другога разумелі з паўслова. Тады я зразумела, што Бацькаўшчына там, дзе твая сям'я, тваё родныя, з якімі ў цябе ёсць супольная мова.

А калі падумаеш, што твая найбліжэйшая сям'я тут, у Амерыцы, дык так і вынікае, што твая Бацькаўшчына ўжо гэтаксама і тут, тут ужо пусцілі карані. А для сваёй далёкай Бацькаўшчыны я магу і мушу захаваць мову, працаваць навукова, рабіць літаратурныя пошукі, пісаць — папулярызаваць беларускую культурную і літаратурную спадчыну.

Так выглядае, што ў наш час можна мець дзве Бацькаўшчыны.

**(Газета «Беларус», № 381, 1991 г., Нью-Йорк).**

## «Беларуская культура» ў вышэйшых навучальных установах

24 снежня ў Менскім дзяржаўным педагагічным інстытуце замежных моў адбыўся «круглы стол» па тэме «Беларуская культура ў вышэйшай навучальнай установе: змест курса, праграмы, методыка». У ім удзельнічалі прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны прафесар А. Мальдзіс, начальнік упраўлення ВНУ Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь М. Плескацэвіч, выкладчыкі ВНУ, супрацоўнікі Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, мастацтвазнаўцы, навукоўцы. З уступным словам выступіў прарэктар Інстытута замежных моў А. Е. Міхневіч. Ён адзначыў важнасць і надзённасць праблемы далучэння сучаснай моладзі да нацыянальнай культуры, а таксама звярнуў увагу на неабходнасць спалучэння нацыянальнай культуры з дасягненнямі заходняй культуры.

А. У. Саўко, выкладчык Інстытута замежных моў, аспірант кафедры педагогікі пазнаёміў прысутных з вынікамі апытання, праведзенага сярод студэнтаў 2 курса факультэтаў англійскай і іспанскай моў, а таксама студэнтаў 2 курса аднаго з факультэтаў Менскага педінстытута. Ён падкрэсліў, што ўзровень нацыянальнай свядомасці студэнтаў вельмі нізкі. Беларускую мову ведаюць толькі 46 % студэнтаў-беларусаў, 30 % наогул лічаць моўную сітуацыю ў Беларусі нецікавай. Студэнты амаль не ведаюць гісторыі Беларусі, нацыянальных традыцый і вуснай народнай творчасці.

Загадчык кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Беларускай акадэміі мастацтваў М. Раманюк пазнаёміў удзельнікаў «круглага стала» з праграмай курса «Беларуская культура» ў навучальным працэсе педагагічных ВНУ Рэспублікі Беларусь. З вялікай цікавасцю яны слухалі выступленне А. Мальдзіса. Ён расказаў пра дзейнасць Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны і планах на перспектыву. Напрыканцы свайго выступлення А. Мальдзіс падкрэсліў, што выкладанне ў навучальных установах павінна праводзіцца толькі на беларускай мове, бо яна стала дзяржаўнай.

З заўвагамі і прапановамі выступілі супрацоўнікі Міністэрства адукацыі, дырэктар Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы І. Вашкевіч, выкладчыкі ВНУ.

Удзельнікі «круглага стала» абмеркавалі змест, праграму, методыку выкладання курса «Беларуская культура» ў вышэйшых навучальных установах.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

## Кароткі слоўнік эканомікі

**АВУАРЫ.** Мае французскае паходжанне. Першаснае значэнне — «маёмасць». У эканоміцы — 1) актывы (грашовыя сродкі, чэкі, вэксалі, пераводы, акрэдытывы), з дапамогаю якіх робіцца аплата і пагашаюцца абавязацельствы; 2) сродкі банка ў замежнай валюце на ягоных рахунках у замежных банках; 3) уклады прыватных асоб і арганізацый у банках.

**АКЦЫЯ.** Штука, пра якую пераважная большасць з нас апошнім часам шмат чула, але пакуль нават у руках не трымала. Між тым як галоўнае значэнне слова згодна з акадэмічным «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы» (ТСБМ) — «дзеянне, накіраванае на дасягненне пэўнай мэты». Гэта французскі варыянт. А калі лацінскі, то яшчэ і «выступленне». Зусім нядаўна пэўная частка нашай прэсы такую «акцыю» не выпускала са сваіх палос. Але як паняцце эканамічных адносін А. мае паходжанне галандскае ды германскае — каштоўная папера з адпаведным, натарыяльна пацверджаным подпісам ды пячаткаю, якая сведчыць пра ўнясенне пэўнага паю ў прадпрыемства і дае права яе ўладальніку на ўдзел у справах і ў прыбытках (калі яны будуць) гэтага прадпрыемства.

## РАЗМОЎНІК ВЕТЛІВАГА ГОСЦЯ

### для гасцявання ў Германіі

1. Добры дзень! Guten Tag! гу́:тэн та:к
Добрай раніцы! Guten morgen гу́:тэн морген

Добры вечар! Guten Abend! гу́:тэн абэнт

2. Як справы? Wie geht es ihnen? ві: ге:т эс і:нэн

3. Дзякуй, усё добра. Danke, gut. да́нкэ, гу:т

А нічога, дзякуй. Danke, es geht. да́нкэ, эс ге:т

Будзьце здаровы! Бывайце! Leben Sie wohl! ле́:бэн зі: во:ль

4. Паўтарыце, калі ласка. Wiederholen Sie bitte. ві:дерхо́:лен зі: бі́тэ

5. Гаварыце, калі ласка, больш павольна. Sprechen Sie bitte langsamer. шпрэ́хен зі: бі́тэ ля́нгза:мэр

6. Я вывучаў нямецкую мову ў школе. Ich habe Deutsch in der Schule gelernt. іх ха́:бэ дойч ін де:р шу́:ле гэле́рнт

7. Да пабачэння! Auf Wiedersehen! аўф ві́:дэрзе:эн

Добрай ночы! Gute Nacht! гу́:тэ нахт

Раздзел падрыхтаваў Сямён Дорскі, кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

Шаноўныя чытачы «Размоўніка», мусім яшчэ раз напомніць, што мэта нашага маленькага раздзела вельмі сціплая — дапамагчы тым з вас, хто трохі ведае якую-небудзь замежную мову — англійскую, нямецкую ці французскую, і нагадаць альбо падказаць самыя неабходныя гутарковыя выразы і фразы. Па тэхнічных прычынах мы ўжываем не агульнапрынятую міжнародную транскрыпцыю для паказу вымаўлення слоў і сказаў на замежнай мове, а перадаём яго кірылічнымі літарамі і толькі прыблізна. Але былі б вельмі радыя, калі б нашы сціплыя ўрокі падахвоцілі вас і на больш сур'ёзнае вывучэнне замежнай мовы па падручніках, у гуртках, з дапамогаю тэлебачання, магнітафонных запісаў ці пласцінак. Жадаем набрацца рашучасці — і смела за справу! Занятак гэты цікавы, а веды і ўменне, якія вы набудзеце, могуць вельмі спатрэбіцца вам у жыцці і працы.

Поспеху, дарагія сябры, шаноўнае спадарства!

*Рэха*

## І сябра, і друг, і прыяцель, і член!

*Адносна нататкі Ігната Дуброўскага «Сябры ці члены» («Наша слова», № 34)*

Цалкам згаджаюся з аўтарам нататкі, калі ён адабрае вяртанне беларускай мове забытых ці выцесненых русіфікацыяй спрадвечных і адметных слоў і выразаў. Аднак лічу, што высновы яго не зусім карэктныя, і ён не мае рацыі, прыводзячы канкрэтныя прыклады, якія, на яго думку, характарызуюць негатыўны бок гэтай з'явы. У першую чаргу гэта тычыцца слова «сябра-сябар» і розных камічных заменаў ім слова «член» на «сябра», у некаторых выпадках зусім беспадстаўных, бо, як ён сам піша, «словы «сябра» і «член» семантычна розныя». Увогуле ў довадах Ігната Дуброўскага выразна выяўляецца наша агульная бяда — рускамоўнае мысленне, артыкуляванае беларускімі словамі.

Кожны этнас, кшталтуючы сваю свядомасць ва унікальных абставінах, фарміруе і адпаведныя моўныя сродкі для адэкватнага адлюстравання рэчаіснасці. Мова ж, абслугоўваючы шматлікія пакаленні этнічнай супольнасці, успрымае, прыстасоўваючыся, змены гэтай рэчаіснасці, адначасова захоўваючы ў сабе ўсё некалі набытае. Нажытае багацце мова растрачвае вельмі ашчадна і неахвотна і з'яўляецца таму нават у большай ступені як матэрыяльная культура лучніцай паміж пакаленнямі, паміж этнасам і акаляючай яго рэчаіснасцю, г. зн. мова з'яўляецца зберагальніцай нацыянальнага светаўспрымання і ў моц гэтага статуса не толькі выяўляе нацыянальную свядомасць, але і сілкуе яе. Таму не дзіўна, што кожная асімілятарская дзейнасць пачынаецца са спроб вынішчыць мову пад'ярэмнага народа.

Са зменай абставін жыцця народа не заўсёды знікаюць словы, якія азначалі з'явы і рэчы, што адышлі ў нябыт. Часта яны працягваюць сваё актыўнае існаванне, змяніўшы першапачатковае значэнне, і толькі генетычная моўная памяць дзейснага носьбіта роднай мовы прымушае нас часамі або задумвацца наконт таго ці іншага слова, або ўжыць яго часам у значэнні цяпер неўласцівым, але супадаючым з забытым першапачатковым. Гэта адбылося, на маю думку, і са словам «сябар» пры ўжыванні яго ў сэнсе «член якога-небудзь калектыўнага органа, суполкі, партыі». Бо этымалагічна слова «сяб-ар» выводзіцца, і гэта відавочна і непасвячонаму ў таямніцы параўнальнага мовазнаўства, са старажытнага індаеўрапейскага кораня «сіб», які азначаў род, племя, кроўнае сваяцтва, свайго. Звярніце ўвагу на агульны корань: сябар-сваяк-свой, бо «в» узрыўное для недасведчанага вуха гучыць як «б», і ў гістарычным развіцці моў яны ўзаемазамяняліся. У сучасных германскіх мовах гэтае слова захавалася, утрымаўшы і сваё першапачатковае значэнне, у формах: «сіб» у англійскай і «зіппэ» ў нямецкай. Суфікс -р — агульны індаеўрапейскі вельмі прадуктыўны словатворчы элемент, які выступае ў спалучэннях з рознымі галоснымі, прымаючы выгляд: -ар, -ер, -ір і г. д.

Таму і адзначым, што лексічнае значэнне слова «сябар» мае два адценні: друг і той, хто належыць па якой-небудзь прыкмеце (кроўная ўжо забылася) да якога-небудзь акрэсленага кола людзей. З гэтай прычыны выраз «сябар сям'і» азначае толькі «друг сям'і» і ўжывацца ў сэнсе «член сям'і» не можа. А ўжыванне злучэнняў тыпу: сябар БСДГ, сябра Цэнтральнай Рады і г. д. зусім заканамерна і абгрунтавана.

Тут напрошваецца такая, па-мойму, небеспадстаўная думка: раней, да русіфікацыі, агульныя для беларускай і расійскай моў словы ўжываліся без псіхалагічнага дыскамфорту, і імкненне абмежаваць ужыванне такіх слоў у беларускай мове не назіралася. Таму можна меркаваць, што нават у недалёкай даўніне слова «сябар» не па ўсіх параметрах магло замяняць слова «друг».

Інтуітыўнае імкненне пазбягаць слоў, агульных для абедзвюх моў, амаль зусім выцесніла сёння, напрыклад, і такое ёмістае і спрадвечнае слова, як «знаць», замяніўшы яго словам «ведаць». А на справе «знаць» мела сваю сферу ўжывання, азначаючы «быць знаёмым з кім- ці з чым-небудзь», а «ведаць» азначала «мець пэўную суму ведаў».

Гэтая з'ява, цікавая для мовазнаўства, але прыкрая для самой мовы, бо збядняе яе, і перастане існаваць толькі тады, калі на Беларусі будзе забяспечана поўнае беларускамоўнае асяроддзе.

Што да моўнай генетычнай памяці, то вось яшчэ адзін прыклад. Ужываючы слова «кут» у сэнсе «жыллё, прыстанак, месца жыхарства», мы не памятаем, што некалі ў сівыя даўнія часы так называліся паўзямлянкі, у якіх жылі нашы індаеўрапейскія продкі. Працэс гэты таксама ілюструецца пісьмова фіксаванай германскай лексікай.

У сэнсе вышэйсказанага я магу толькі вітаць імкненне зменшыць жабраванне русізмаў, замяняючы іх на запазычанні з іншых суседскіх моў, аднак мне здаецца, што найбольш прадуктыўным з'яўляецца выкарыстанне ўласных патэнцый беларускай мовы. Зацікаўленых гэтай праблемай адсылаю да выдатнага «Расійска-крыўскага слоўніка» В. Ластоўскага.

Аднак у пурыстычным імкненні ачысціць мову не варта забываць, што многія словы, якія недасведчанымі людзьмі ўспрымаюцца як русізмы, на самай справе такімі не з'яўляюцца, і нашы продкі ўжывалі іх побач з не маючымі адпаведнікаў у расійскай мове сінонімамі, ды ў значэннях, якія сёння губляюцца або пераносяцца на гэтыя сінонімы.

Бачыць гэтую праблему — азначае пазбягаць збяднення роднай мовы.

**Міхаіл ПАТРЭБА,**
**выкладчык нямецкай мовы.**
**г. Гродна.**

*Урокі*

## АД ПІКТАГРАМЫ ДА ЛІТАРЫ

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 1, 2).*

**Сёй-той прапануе перайсці на лацінку, бо яна, маўляў, «больш адпавядае гукавому ладу нашай мовы», дае «шырокія магчымасці адлюстроўваць на пісьме ўсе моўныя тонкасці» і, бачыце, з цягам часу дапаможа вярнуць беларусам «еўрапейскі светапогляд». Што тут сказаць?..**

**Лацінка, думаю, не будзе больш удалай для перадачы на пісьме гукавога ладу мовы. Спатрэбяцца і асобныя надрадковыя знакі і яшчэ больш складаныя, чым сёння, камбінацыі літар для перадачы мяккіх зычных у спалучэнні з галоснымі, для абазначэння шыпячых і іншае.**

**А што да «еўрапейскага светапогляду», дык вельмі па-еўрапейску жылося некалі нашым продкам і з кірыліцай. Старажытнабеларуская пісьменнасць была магутным фактарам грамадскага жыцця і культуры ў Вялікім княстве Літоўскім, аб чым сведчаць каля 600 кніг Літоўскай метрыкі, творы Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, першы, другі і трэці выпускі Статута, які служыў узорам для пераймання ў многіх краінах Еўропы.**

**Дык навошта мяняць гражданку на лацінку, калі ад гэтага не будзе карысці? Хто падлічыць маральныя і матэрыяльныя страты? Ёсць жа пра што ўсім нам думаць: не выконваецца Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, не гучыць роднае слова на гарадскіх вуліцах, ва ўстановах, на вытворчасці...**

**Параўнаем тое ж кітайскае іерагліфічнае пісьмо з нашым літарна-гукавым. Усяго трыццаці дзвюх літар дастаткова беларусам, каб выкласці на паперы любыя думкі. Кітайцам для гэтага трэба ведаць да дзесяці тысяч іерогліфаў, памятаць іх графічны воблік, значэнне і гучанне кожнага абазначанага імі слова, шматлікія спецыфічныя значкі для перадачы граматычных форм слоў...**

**Уладзімір ЛАМЕКА.**

# У вянок паэту

Ідучы ў Траецкае прадмесце, я думала: «Вось і скончыўся першы этап у гісторыі нашай Багдановічаніяны, пачынаецца наступны. На змену энтузіястам-даследчыкам і аматарам-збіральнікам духоўнай спадчыны і рэліктавых рэчаў, звязаных з жыццём і творчасцю Максіма, прыйшлі новыя людзі: цвёрдыя, мэтанакіраваныя музейныя работнікі, якія заўсёды ведаюць, чаго хочуць, у якіх загадзя усё спланавана і прадугледжана. Трэба добра паглядзець, што яны стварылі. Такі лёгкі, цацачна-зграбны гэты асабнячок, сённяшні Літаратурны музей М. Багдановіча, але ці стане ён прыстанішчам для паэтавай музы, ці знойдзе ў ім спакой яго беспрытульны дух?»

**Эдуард Агуновіч**, аўтар экспазіцыі музея:

— Была такая мастацкая плынь на пачатку XX стагоддзя ў архітэктуры, жывапісе, музыцы, літаратуры, якая захапіла перадавых мастакоў таго часу,— мадэрнізм. Дык вось, Багдановіч добра адчуваў гэту з'яву, звязваў з ёю прагрэсіўныя тэндэнцыі ў беларускім мастацтве. Мадэрнізм стымуляваў яго пошукі новых сродкаў паэтычнай выразнасці, якія забяспечвалі гарманічнае адзінства формы і зместу. Усім вядома патрабавальнасць паэта да мастацкай формы. Прыгадаем хаця б яго верш «Пясняр».

Трэба з сталі каваць,
гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з
цярпеннем.
Як ударыш ты ім,— ён, як
звон, зазвініць,
Брызнуць іскры з халодных
каменняў.

Пры праектаванні музея я зыходзіў з творчасці паэта, яе духу.

У афармленні залаў ужыты элементы сэцэсіі (мадэрна) — плаўныя, рытмічныя лініі-струны бачны на экспазіцыйнай мэблі, саломцы, метале, на рамках і трымальніках, яны ж абрамляюць інтэр'еры і экспанаты. Іх эстэтычная задача — раскрыць, данесці да гледача ідэйны «зарад» залы, яе галоўную тэму, па магчымасці надаць значэнне абагульняючага сімвалу галоўным экспанатам, што тэматычна ўпісваюцца ў тую або іншую залу. Для прыкладу магу спаслацца на трэцюю, што носіць назву «Вянок». Вобразны лад інтэр'ера сімвалізуе рост і росквіт таленту паэта. Форма вітрын, у якіх месцяцца дакументы, партрэты, нагадвае пялёсткі і парасткі... Наколькі ўжыты намі прынцып падачы музейных экспанатаў дапамагае асэнсаванню эпохі, творчасці М. Багдановіча, яго асабістага лёсу — мяркуйце самі...



НА ЗДЫМКУ: адкрыццё Літаратурнага музея М. Багдановіча 8 снежня 1991 г. Злева направа: пляменніца паэта Таццяна Пятроўна Гразнова з дачкой Наташай і супрацоўніцай музея Валянцінай Францаўнай Бяляўскай.

З гэтымі пачатковымі звесткамі пра музей я і пераступіла парог святыні. *Зала першая* — ДЗЯЦІНСТВА. Яе мастацкі код — беларуская саломка. Яна тут — сонейка, сімвал светлага дзяцінства чалавека. Саломка афармляе панелі. Народны майстар Лідзія Главацкая выканала пано на тэмы цыклаў вершаў «Зачараванае царства» і «Згукі бацькаўшчыны». Мы ў акружэнні вобразаў народнага фальклору: змяіны цар, вадзянік, папараць-кветка...

Фота малога Максімкі над алтарыкам, у якім ляжаць найкаштоўнейшыя сямейныя рэліквіі,— у рамачцы з саломкі. Гэтыя рэліквіі — вышыты матчынай рукой белы ручнік і татава кніга «Пераж... На сценах партрэты бацькоў і сваякоў: Багдановічы — Марыя Апанасаўна і Адам Ягоравіч, дзед Лук'ян; Мякоты — бабуля Таццяна Восіпаўна, цёткі Ганна Апанасаўна, Сцепаніда Апанасаўна, стрыечныя браты Секержыцкія...

*Другая зала* — МУЗЫКА. Яна расказвае аб станаўленні творчай індывідуальнасці паэта. 12 гістарычных постацей са славутай кагорты беларускіх грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў і вучоных — папярэднікі Багдановіча. Над прыцямнёнай нішай у фокусе святла партрэт Максіма. У нішы нацыянальныя рэліквіі — Статут Вялікага княства Літоўскага і слуцкі пояс.

*Трэцяя зала*. Вобразны лад інтэр'ера ілюструе і падкрэслівае, як ужо адзначыў мастак, апагей творчага росквіту, грамадскай і літаратурнай дзейнасці паэта. Ён багаты на архіўныя матэрыялы, аўтографы, газеты («Наша ніва», «Наша доля», украінскі і рускі друк), знаёміць з сябрамі і паплечнікамі паэта. Галоўны экспанат — прыжыццёвае выданне «Вянок». У зале экспануюцца цікавыя творы жывапісу і гістарычныя рэліквіі. Да апавядання «Апокрыф» стасуецца рэпрадукцыя графічнай работы Паўла Хандлера «Хрыстос, які пастукаўся» (дарунак сям'і Дзябольскіх) і царкоўная даразахавальніца XIX стагоддзя. Ілюстрацыяй да «Апавядання аб іконніку і залатару...» служыць графічная работа Эдуарда Агуновіча і фрагмент беларускай рэзі XVII стагоддзя. Столь залы ў адбітках беларускіх ручнікоў.

*Чацвёртая*, апошняя, *зала* музея,— МАДОННЫ. З ёю звязаны найбольшыя мастакоўскія пошукі. Яе цэнтральная дамінанта — геліягравюра «Сіксцінская мадонна» Рафаэля, якая шмат гадоў была перад вачыма ў паэта (вісела ў кабінеце бацькі) і паўплывала на фарміраванне яго эстэтычных прынцыпаў, што выразна бачна на паэмах «Вераніка» і «У вёсцы». Мадонна Рафаэля ў творчасці беларускага паэта праўвасобілася ў велічны па сіле абагульнення вобразы «краіны-бранячкі», жанчынымаці, каханай.

Гісторыя ж геліягравюры такая: набыў яе ў Ніццы Максім Горкі. У сям'ю Адама Багдановіча трапіла праз яго другую жонку Аляксандру Волжыну, што даводзілася Кацярыне Пешкавай сястрой. Цудоўным чынам захавалася пад час яраслаўскага пажару,— яе знайшлі амаль непашкоджанай на пажарышчы. У больш позні час падаравана Паўлам Адамавічам Багдановічам унучцы Тані Паповай, ад якой «Мадонна» і трапіла ў музей.

**Ірына КРЭНЬ**

*(Працяг будзе).*

## Выбранецкая інфармацыйная служба паведамляе

Выканаўчы камітэт Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады зрабіў дзве заявы. У першай гаворыцца, што на тэрыторыі былога СССР расце палітычная нестабільнасць. Расце напружанасць і ў войску, якое знаходзіцца на Беларусі. Гэта выклікана адсутнасцю ў вайскоўцаў сацыяльных гарантый, перспектывай застацца без сродкаў для існавання, няпэўнай будучыняй. Таму для забеспячэння знешняй і ўнутранай стабільнасці Беларусі неабходна тэрмінова стварыць рэспубліканскую гвардыю і ўзяць войскі на тэрыторыі рэспублікі, акрамя ядзерных сіл, пад яе юрысдыкцыю. Далей у заяве гаворыцца, што Вярхоўны Савет рэспублікі адмаўляецца разглядаць гэтыя пытанні, нягледзячы на тое, што Дагавор аб Садружнасці Незалежных Дзяржаў не забараняе Беларусі мець свае ўзброеныя сілы.

У другой заяве сказана, што Саўмін і Вярхоўны Савет Беларусі не вызначыліся як сапраўдные вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы ў напаўненні незалежнасці Беларусі рэальным зместам, што фактычна прыводзіць народ рэспублікі да галечы і жабрацтва. На нашых вачах Беларусь пачне адставаць ад Украіны і Расіі. «У гэтай сувязі,— гаворыцца ў заяве,— выканкам БСДГ падтрымлівае заяву апазіцыі на платформе БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь і заклікае сваіх сяброў і прыхільнікаў актыўна падключыцца да збору подпісаў і ўдзелу ў правядзенні ўсебеларускага рэферэндуму з мэтай адстаўкі ўрада і датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

* * *

У Ніжнім Ноўгарадзе прайшоў джазавы фестываль, у якім прыняў удзел і быў прызнаны лепшым беларускі гурт «Зарціпо».

* * *

У выдавецтве «Беларусь» выйшла кніга Аляксандра Уліцёнка «Іншадумцы—Мыслящие иначе». У яе ўвайшлі гутаркі з тымі, каго яшчэ ўчора клеймавалі «нефармаламі», «дысідэнтамі», «нацыяналістамі». Сярод іх Уладзімір Арлоў, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч, Зянон Пазьняк, Міхась Ткачоў, Юрый Хадыка.

Падрыхтаваў
**Андрусь ВАШКЕВІЧ.**

*Закону аб мовах — два гады!*

# Ніл ГІЛЕВІЧ: беспаваротна стаць на шлях беларусізацыі

*(Заканчэнне. Пачатак на с 1, 2).*

кантраляваць — на ўрад рэспублікі і на адпаведныя камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Хачу спадзявацца, што нарэшце нашы мовазнаўцы збяруцца для прафесіянальнай размовы па гэтым пытанні. Колькі ж можна спакойна глядзець, як вуха і вока масавага чытача прывучаюць да неймавернага моўнага разнабою, а ў выніку — насаджаюць жахлівую непісьменнасць. І гэта якраз тады, калі мы ўзялі курс на ўсемагчымае пашырэнне нашай роднае мовы ў якасці дзяржаўнай.

Усякую добрую справу трэба выконваць прафесіянальна, у тым ліку і работу па адраджэнні беларускай нацыі, па беларусізацыі Беларусі. Але справа гэта, апрача прафесіяналізму, вымагае перш за ўсё творчых адносін, асабістай ініцыятывы,— агульныя ж прынцыпы і правілы прадугледжаны законамі і дзяржаўнымі праграмамі. Для аб'яднання высілкаў па беларусізацыі нейкі спецыяльна створаны «адраджэнска-прафесіянальны цэнтр» наўрад ці патрэбен. Давайце, нарэшце, прывыкаць, што Рэспубліка Беларусь — суверэнная, незалежная дзяржава, у якое ёсць урад (Савет Міністраў), абавязаны праводзіць у жыццё законы рэспублікі. У тым ліку — Закон аб мовах, Закон аб культуры, Закон аб адукацыі, Закон аб грамадзянстве,— тыя законы, што ў першую чаргу павінны абараняць нацыянальную годнасць народа. І грошы на фінансаванне праграм і мерапрыемстваў адраджэння, у тым ліку і прыватных,— ва ўрада. А хто ж яшчэ, апрача ўрада, матэрыяльна, фінансава падтрымае найважнейшую агульнанацыянальную справу? І чаго ж ён будзеварты, наш урад, калі ён не знойдзе сродкаў на выратаванне мовы і культуры свайго народа?

Што да праблем са слоўнікамі, літаратурай і іншым неабходным для правядзення ў жыццё Закона аб мовах, то такія праблемы, безумоўна, ёсць. Па-першае, не будзем забываць, што яны ствараюцца наўмысна. Скажам, наўмысна чыняцца перашкоды ў справе выдання беларускай літаратуры, беларускіх часопісаў і газет, іх распаўсюджання і інш. Па-другое, праблемы ўзнікаюць па прычыне нашага няўмення працаваць, нашай безыніцыятыўнасці і непаваротлівасці. Надта ж любім, каб нехта даў гатовае ячэйка ды яшчэ й аблупленае. Ну, а ўвогуле, гэта зусім натуральна, што наш шлях наперад ляжыць праз выпрабаванні і пераадоленне перашкод. Іншая рэч, што мы да гэтага недастаткова падрыхтаваны, дакладней — вельмі слаба падрыхтаваны. Выйсце адно — набываць належную дзяржаўную форму, кажучы высокім стылем — гартаваць дух свабоды і незалежнасці. З лакейскай аглядкай на гаспадара да запаветнай мэты не дойдзеш.

